# НЯХАЙ ЖЫВЕ 46-я ГАДАВІНА ВЯЛІКАЙ КАСТРЫЧНІЦКАЙ САЦЫЯЛІСТЫЧНАЙ РЭВАЛЮЦЫІ!



**У ЛАБАРАТОРЫІ ЦВЁРДЫХ ЦЕЛ І ПАЎПРАВАДНІКОЎ БЕЛАРУСКАГА ЎНІВЕРСІТЭТА.**

Артыкул «Беларускі універсітэт» — стар. 6.

## ПЛЫВЕ НАФТА — РАСЦЕ ДРУЖБА

Прыснулі іскры. Загарэлася яркае чыстае полымя, бы факел шчырай дружбы. Зваршчыкі — паляк Францішак Гломб і рускі Яўген Гаўрылаў — знялі з твараў маскі — заслоны. **Апошняя труба спалучана! Штучная рака, замкнутая сталёвымі берагамі труб, гатова! Можа прымаць няспынны паток...** Не, вада гэтай рэчкай, створанай чалавекам, не пацячэ. **Яе напоўніць савецкая нафта.**

Доўгую, незвычайна цяжкую дарогу прайшлі гэтыя два зваршчыкі, пакуль сустрэліся вось тут, на граніцы братніх дзяржаў. Яўген Гаўрылаў са сваімі савецкімі сябрамі распачаў падарожжа аж ля варот Куйбышава на Волзе. Францішак Гломб і яго сябры адмерылі сваімі зварачнымі апаратамі 670 кіламетраў па польскай зямлі. Ніякія перашкоды іх не спынілі. Прайшлі праз славутыя пінскія балоты, перасяклі шматлікія, бурлівыя рэкі, пераадолелі даліны і горы. Не спынілі свайго трыумфальнага шэсця нават тады, калі заходнегерманскі ўрад забараніў сваім прадпрыемцам дастаўляць Савецкаму Саюзу трубы, патрэбныя для будовы гэтай сталёвай ракі.

Зваршчыкі Францішак Гломб і Яўген Гаўрылаў па братэрску паціскаюць рукі, цалуюцца.

Субота, 19-ты дзень кастрычніка 1963 года. Вялікае свята! Свята шчырай дружбы двух народаў, свята творчай, мірнай працы і ўзаемнай дапамогі.

Так адчуваюць і так думаюць сотні людзей, якія з абодвух бакоў граніцы прышлі адзначыць гэты гістарычны момант. Расплыліся, перамяшаліся яны ўзаемна. Не пазнаць, хто з іх жыхар Беластоцкага ваяводства, а хто — Брэсцкай вобласці. Аднолькава раз'ясняе твары шчырая, сяброўская ўсмешка, у адных і другіх аднолькавы святочны настрой.

Шырока адкрылася дарога ў Польшчу для савецкай нафты, але яшчэ шырэй адкрыліся сэрцы для ўзаемнай дружбы. Быццам ніколі дзяржаўная мяжа не раздзяляла людзей. Вось дзяўчаты з Брэсцкай дывановай фабрыкі раздаюць памятныя значкі і паштоўкі беластачанам. Студэнткі Брэсцкага педагагічнага інстытута абменьваюцца адрасамі з польскімі настаўнікамі.

Такіх нікім не планаваных сустрэч у гэты дзень было вельмі многа. Зрэшты, кожны чалавек выдаваўся тут блізкім, як родзіч, як сваяк. І гэта, найлепш адлюстроўвала сэнс гістарычнага моманту, моманту заканчэння велізарнай міжнароднай будовы, моманту апошніх прац пры нафтаправодзе «Дружба», які сталёвымі трубамі звязаў Польшчу, Чэхаславакію і Германскую Дэмакратычную Рэспубліку з Савецкім Саюзам.

Выступалі прадстаўнікі партыйных і адміністрацыйных улад Беластоцкага ваяводства і Брэсцкай вобласці. На польскай і рускай мовах гаварылі рабочыя — прадстаўнікі цэлай арміі невядомых герояў, якія на траскучым марозе і пад бязлітасным сонцам кіламетр за кіламетрам пракладалі трубы сталёвай ракі.

Над спакойнымі лясамі, над дахамі навакольных вёсак плыў вясёлы гоман. Над гранічнай паласой песні грымелі па-руску і па-польску аднолькава прыгожа, аднолькава звонка, такім жа самым бляскам радугі зіхацелі яркія ўбо-

(Працяг на стар. 4)

**Жыць у грамадстве і быць свабодным ад грамадства нельга.**
**Ул. Ленін**


# Ніва

ОРГАН ГАЛОЎНАГА ПРАЎЛЕННЯ БЕЛАРУСКАГА ГРАМАДСКА-КУЛЬТУРНАГА ТАВАРЫСТВА

№ 44 (401) | ГОД VIII | 3 ЛІСТАПАДА 1963 г. | ЦАНА 60 ГР


## ДОМ, У ЯКІМ ЖЫВЕМ

Дыскусіі на тэмы працы Беларускага Грамадска - Культурнага Таварыства вяліся ў радах арганізацыі не раз і не раз траплялі на старонкі «Нівы». Не гледзячы на непасрэдную прычыну кожнай з іх, у іх, як правіла адчуваеш нейкія пошукі месца Таварыства ў жыцці. Гэта доказ маладосці арганізацыі, але і яе няспеласці. Тым часам усё, што існуе і дзеецца ў нашай краіне, павінна быць падпарадкавана адной генеральнай лініі: грамадска - гаспадарчаму пад'ёму, сацыялістычнаму будаўніцтву. Цяпер жа інтарэсы нацыянальнай меншасці поўнасцю пакрываюцца з інтарэсамі ўсёй грамадскасці. Беласточчына, тэрыторыя, дзе пражывае беларускае насельніцтва, найбольш, мабыць, зацікаўлена ў хуткім узросце свайго эканамічнага патэнцыялу. А нашым вёскам шмат трэба напрацаваць, каб дараўнаць гаспадарцы ў цэнтры ці на захадзе краіны, дзе таксама яшчэ не сказана апошняе слова тэхнікі. Зразуменне гэтых спраў ставіць нашы пошукі ў зусім новым святле, а дыскусія зводзіцца ў такім выпадку да аднаго: як працаваць, каб супольнай справе знайсці — найбольш прыхільнікаў, а прыгожую ідэю пераўтварыць у надзённы хлеб? Магчымасці нашыя невялікія, мы не тытаны і не на нас трымаецца край. Усё ж у справе гэтай лічыцца кожны чалавек і кожны ўдзел. Наш — таксама будзе лічыцца. У нашых радах шмат ахвярных людзей, актыўных удзельнікаў жыцця свайго асяроддзя, вёскі, грамады, павету. Яны аўтары соцен тых уздымаў, якія мы лаканічна называем грамадскімі чынамі, а якія, уласна кажучы, і ліквідуюць эканамічную ці культурную адсталасць. Доказаў на гэта ў нашых вёсках шмат: сотні пабудаваных дарог, дзесяткі школ, святліц, раміз, сотні тысяч засаджаных дрэў і інш. Гэта і ёсць наш удзел у сацыялістычным будаўніцтве. XIII Пленум ЦК Польскай Аб'яднанай Рабочай Партыі, які і даў штуршок гэтай дыскусіі, звяртае ўвагу на іншы бок справы. У дакладзе чытаем: «Інтэгральнай часткай пабудовы сацыялізма, неразлучна павязанай з утварэннем матэрыяльна - тэхнічнай базы строя, з'яўляецца перабудова грамадскай свядомасці, прывіццё новых суадносін да дзяржавы, працы і грамадскай уласнасці...» Жыццё вучыць, што ўздым, званы грамадскім чынам, змяняе не толькі выгляд вёсак, змяняе свядомасць людзей. Стварае падставы новай, сацыялістычнай свядомасці.

Гадоў два, хіба, таму назад я наведаў невялічкую вёску ў Беластоцкім павеце — Круглы Лясок. Было гэта вечарам, на сялянскім сходзе. Сяляне разважалі наступную праблему: памаляваць вылажаныя каменнем бакі вуліцы на бела ці не? Здзівіў мяне і тон гэтых разважанняў, і прызнайце самі — тэма была нештодзённая! За паясненнямі я звярнуўся да старшыні сходу, кіраўніка мясцовай школы. Факт, я зрабіў яму велізарную прыемнасць,

(Працяг на стар. 4)



**Згодна з народным абычаем, хлебам і соллю прывіталі на граніцы першага сакратара Ваяводскага камітэта ПАРП, пасла ў Сейм Аркадзія Лашэвіча прадстаўнікі грамадства Брэсцкай вобласці. На здымку: хлеб і соль уручае старшыня калгаса. Ад імя насельніцтва Беласточчыны, члены калектыва «Курпе зелёнэ» уручылі хлеб і соль Уладзіміру Андрэевічу Мікулічу — першаму сакратару Брэсцкага Сельскагаспадарчага Абкома КП Беларусі.**

# Абаронім адзінства камуністаў

У апошнім нумары савецкага часопіса «Камуніст» змешчаны артыкул пад загалоўкам «Марксізм—ленінізм — аснова адзінства».

Артыкул ацэньвае вынік ідэйнага адыходу кіраўнікоў Камуністычнай Партыі Кітая ад агульнай лініі сусветнага камуністычнага руху.

«Справе сацыялізма, — чытаем ва ўступе да артыкула, — ...прыносіце велізарную шкоду, і кожны камуніст, незалежна ад таго, у якой краіне бы ён ні быў і ў якіх умовах ні змагаўся за свае ідэалы, павінен выканаць свой інтэрнацыянальны абавязак: зрабіць усё, што толькі можна, каб устрымаць развіццё падзей у тым напрамку, які хочуць надаць ім у Пекіне. Калі гэта не будзе зроблена на час, вынікі для ўсяго камуністычнага руху могуць быць вельмі цяжкія».

Артыкул падрабязна разбірае сутнасць так званай «асобнай платформы» КП Кітая. «Камуніст» сцвярджае, што для здзяйснення гэтай «платформы», кіраўніцтва Кітая хоча «разбіць міжнародны камуністычны рух і стварыць нейкі новы рух пад сваёй апекай. Найкарацейшы шлях да гэтага бачыць яно ў дыскрэдытацыі КПСС». Артыкул прыводзіць шматлікія прыклады розных выдумак, да якіх прыбягае кітайская прапаганда, і сцвярджае, што гэтыя выдумкі не вытрымліваюць крытыкі і распадаюцца пры першым супастаўленні з Праграмай КПСС, прынятай на XXII З'ездзе, з пастановамі XX З'езда і надзённай рэчаіснасцю.

Абмеркаваўшы фальшывыя, антымірныя кітайскія канцэпцыі ў галіне загранічнай палітыкі, якія вынікаюць з нявер'я «у сілы сацыялізма, у іх здольнасць уплыву на развіццё света ў напрамку рэвалюцыі», артыкул звяртае ўвагу на магчымасць розных шляхоў, вядучых да перамогі сацыялізма.

Артыкул крытыкуе таксама кітайскую тэорыю аб так званых «асобных» інтарэсах народаў Азіі, Афрыкі і Лацінскай Амерыкі, сцвярджаючы, што гэтая тэорыя не мае нічога супольнага з марксізмам - ленінізмам і спрыяе стрымліванню барацьбы гэтых народаў супроць імперыялізма і ізаліруе іх ад сацыялістычных краін.

«Камуніст» адзначае, што палітычныя і ідэалагічныя канцэпцыі кітайскіх тэарэтыкаў у многіх выпадках даволі блізкія з канцэпцыямі трацкістаў. Гэта датычыць «тэорыі» перманентнай рэвалюцыі, якая не прызнавала мірнага суіснавання. Як некалі трацкісты, так цяпер кіраўнікі Кітая бесцырымонна ўмешваюцца ва ўнутраныя справы братніх партый, накідваючы ім свае погляды і тактыку.

«Камуніст» распраўляецца з кітайскімі закідамі, быццам у сацыялістычных краінах, а ў першую чаргу ў СССР шырыцца рэвізіянізм, а праявай яго было выкрыццё культу асобы Сталіна. «Справа тут не ў асобе Сталіна, — піша аб гэтым «Камуніст», — і кіраўнікі КП Кітая дарэмна хочуць звясці ўсё да гэтай адзінай справы. Сутнасць заключаецца ў тым, у якім палітычным напрамку павінны імкнуцца сацыялістычныя краіны, і што абяцае сацыялізм іншым краінам, калі заклікае іх стаць пад супольны сцяг».

На думку «Камуніста», узнаўленне практыкі з перыяду культу адзінкі кітайскім кіраўнікам патрэбна таму, што іх унутраная палітыка і цяпер абапіраецца на ўтрыманні рэжыму культу адзінкі. Выступленне кітайскіх тэарэтыкаў за ўтрыманне культу адзінкі і супраць калегіяльнасці кіраўніцтва з'яўляецца заклікам да далейшага абагатварэння Мао-дзэ-Дуна, якое вядзе кітайская прапаганда.

Артыкул прыпамінае, што ўжо 65 камуністычных і рабочых партый усяго свету выказалася за генеральную палітычную лінію, пададзеную ў Заяўленні і Дэкларацыі з маскоўскіх нарад. Гэта найлепшы доказ клопатаў аб адзінстве сусветнага камуністычнага руху.

Калі кітайскае кіраўніцтва не робіць з гэтага для сябе адпаведных вывадаў, значыць, што свядома імкнецца разбіць салідарнасць камуністаў. І таму яно павінна лічыцца з тым, што вынікі такіх сепарацкіх пачынанняў лягуць выключна на іх саміх.

**УЛ. ЛАЗІНСКІ**



# У былога матроса «АЎРОРЫ»

У 1957 годзе мы апублікавалі артыкул аб Якубе Мартынюку са Стараберазова, былым гальванёры славутай «Аўроры», у якім расказвалася аб хвалюючых днях Кастрычніцкай рэвалюцыі, якія перажыў таварыш Мартынюк на гістарычным цяпер браняносцы. Між іншым, ён падаў снарад, які аб'явіў свету нараджэнне новай сацыялістычнай эры.

Напярэдадні святкавання 46-ай гадавіны Вялікага Кастрычніка мы адведалі Якуба Мартынюка. Цяпер яму ўжо 73 гады. Нягледзячы на гады, мае дасканалую памяць. Яго непасрэдны расказ аб рэвалюцыйным Піцеры ўздзейнічае на слухачоў з ранейшай, хвалюючай сілай.

Якуб Мартынюк з'яўляецца членам Прэзідыума Агульнапольскага камітэта фронта адзінства народа. Узнагароджаны «Камандорскім крыжам Адраджэння Польшчы». Перапісваецца з даўнімі, нешматлікімі ўжо таварышамі па зброі. Пішуць да яго гарцэры з усёй краіны. Асаблівай апекай акружае яго гарцэрская дружына пры мясцовай школе ў Новаберазове.

**Якуб Мартынюк любіць праводзіць час з праўнучкам Колькам (на здымку). Мае таксама пенсію, якая гарантуе яму спакойную старасць.**

**Фота ІАР**



**Прэзідыум семінара ў Галдапі.**

# НАЦЫЯНАЛЬНЫ СЕМІНАР

Ужо некалькі год падрад увосень адбываюцца семінары для культурна - асветных працаўнікоў сярод нацыянальных меншасцей. Таксама па традыцыі семінары гэтыя адбываюцца супольна для Жэшоўскага, Люблінскага і Беластоцкага ваяводстваў. Семінар 1963 года адбыўся нядаўна ў Галдапі. Першы раз у павятовым горадзе. (Наступны, дарэчы, адбудзецца таксама ў павеце — Пшэмысль у Жэшоўскім). Арганізацыйна выпаў вельмі прыемна, за што падзяка і прызнанне мясцовым галдапскім уладам.

Нацыянальныя семінары заўсёды канцэнтраваліся вакол культурна - асветнай працы і яе грамадскай ролі. У гэтым годзе такая мэта тым больш важкая, што XIII Пленум ЦК партыі з асаблівым націскам падкрэсліў ідэалагічны бок культурна - асветнай працы.

Семінар праходзіў пад гэтым знакам. Базай для разважанняў стаўся даклад дырэктара дэпартамента культурна - асветнай працы і бібліятэк Міністэрства культуры і мастацтва мгра Чэслава Калужнага, які прысутныя выслухалі з цікавасцю ў першым дню двухдзёнага семінара. Даклад навязваў да працы ў канкрэтных умовах, быў багаты трапнымі думкамі і цікавымі прыкладамі.

Вечарам удзельнікі семінара наведалі Бані Мазурскія і Лісы — мясцовасці, дзе жыве украінскае насельніцтва. У Банях прысутнічалі на занятках Панфіля Лабачэўскага з мясцовым дзіцячым музычным калектывам. Дзеці ігралі на мандалінах, пісалі ноты і гаварылі аб розных гамах, крыжыках, бэмолях. Многаму навучыліся яны за год добрай працы, бо толькі год існуе гэты калектыў у Банях.

У другім дню была дыскусія. З прыемнасцю даношу, што адзін з лепшых галасоў у дыскусіі належаў нашаму Рыгору Семенюку з вёскі Райкі ў Бельскім павеце. Гаварыў ён, як у іх вёсцы бывалі святліцу, як зразумелі і разумеюць, што «мы ў нашай краіне не пасынкі, а сынкі». Так і сказаў Семянюк, па-беларуску, але ўсе зразумелі. І такім іменна акцэнтам закончыўся семінар гэтага года, прысвечаны ролі і значэнню культурна - асветнай і выхаваўчай працы ў святле XIII Пленума партыі.



**У святліцы ў Лісах сабралася многа народу. Слухаюць лекцыю аб гаспадарчых магчымасцях Сібіры, якой быў пачаты новы навучальны год універсітэта культуры.**

**Вера Леўчук**
фота **А. Казёл**




Гэту аповесць прысвячае аўтар памяці савецкіх разведчыкаў, загінуўшых на нябачным фронце Вялікай Айчыннай вайны. Подзвігі жывых і памяць аб загінуўшых моўчкі захоўвае архіў.

Нарушым маўчанне. Цяпер гэта зрабіць можна. Возьмем адну з пачак, страсем з яе пыл часу. Пачнем чытаць дакументы. І вось мы ўжо чуем жывыя галасы і бачым герояў аповесці.

Глыбокай ноччу на падмаскоўным аэрадроме хадзілі камісар дзяржаўнай бяспекі Леанід Іванавіч Старкоў і падпалкоўнік Міхаіл Сцяпанавіч Маркаў.

— Усё ж мне не зразумела, — сказаў Маркаў. — Калі Крымаў шле з Берліна данясенні, якія тут лічаць правакацыйнымі, чаму яго не выклічуць і не аддадуць пад суд?

— Скажу вам больш: яму нават не паведамляюць, як расцэньваюцца тут яго данясенні.

— Нічога не разумею... — Маркаў спыніўся і, заглянуўшы ў твар таксама спыніўшамуся Старкову, спытаў: — А вы разумееце?

— Я супакойваю сябе думкай, што тут дзейнічае

1

вельмі высокая палітыка, у якую мы, грэшныя, не ўведзены.

Яны зноў пайшлі побач і нейкі час маўчалі.

— Ну, я разумею, калі б Крымаў паведамляў нейкія абстрактныя весткі, — усхвалявана загаварыў Маркаў. — Але ён жа пералічвае нумары армій, якія накіраваў Гітлер да нашых граніц. Ён паведамляе нават прыкладную дату нападзення. Ды і мы самі чытаем у газетах паведамленні аб няспынных нарушэннях нашых граніц нямецкімі самалётамі. Англічане — тыя проста і адкрыта пішуць аб павароце Гітлера на ўсход. Што ж гэта ўсё? Дэзінфармацыя? Палітычная гульня?

—Наогул, Гітлер — вялікі майстар палітычнай авантуры, а супраць гэтага не шкодна выставіць спакой і вытрымку... — Старкоў паглядзеў на гадзіннік. — Ідзем...

Самалёт, якога яны чакалі, высока праляцеў над аэрадромам; яны ўбачылі толькі каляровыя яго аганькі і пачулі глухі рокат матораў.

— Ну вось, Міхаіл Сцяпанавіч, зараз шмат высвятліцца, — сказаў Старкоў, суправаджаючы позіркам плывучыя сярод зорак каляровыя аганькі.

— І можа давядзецца аб'явіць правакатарам і Петрасяна, — усміхнуўся Маркаў.

— Мяне цяпер цікавяць не меркаванні Петрасяна, а тое, што скажа нам з вамі немец, якога ён вязе.

Гук матораў зніжаючагася самалёта хутка нарастаў, і вось у святле запаленых пражэктараў каўзануў да зямлі паветраны карабель. Прабегшы па

2

бетоннай дарожцы, ён пагасіў разбег і, з ходу развярнуўшыся, пакаціўся туды, дзе стаялі Старкоў і Маркаў.

Маторы самалёта змоўклі. Дзверцы яго адчыніліся, з іх спусцілі на зямлю лесвіцу. Першым з самалёта выйшаў канвойны салдат з вінтоўкай. Крыху адыйшоўшы ад самалёта, ён спыніўся, махнуў рукой і ўзяў вінтоўку наперавес. У дзвярах самалёта з'явіўся высокі белавалосы хлапец у міліцэйскай форме, але без шапкі. Паглядзеўшы па баках, ён лёгка саскочыў на зямлю і ледзь не ўпаў: рукі ў яго былі звязаны за спіной. Затым з самалёта выйшаў яшчэ адзін канвойны салдат і, нарэшце, нізкарослы, падобны на барца мужчына ў чэкісцкай форме.

— Дакладвае маёр Петрасян...

— Пачакайце. Пойдзем у будынак...

Праз некалькі мінут яны ўтраіх сядзелі ў адведзеным ім цесным пакоі авіяцыйнага штаба і гутарылі.

— А мо' ён быў скінуты не адзін? — спытаў Старкоў у Петрасяна.

— Цалкам можа быць, таварыш камісар! — хутка адказаў Петрасян. — Дык служба ПВА выявіла самалёт, калі ён ужо ішоў на захад.

— Пошукі вядуцца?

— Увесь мінулы дзень і гэту ноч.

— Ён аказаў супраціўленне?

— Выбачайце, таварыш камісар, гэту падрабязнасць я не высветліў.

**(Працяг на стар. 4)**

3




М. КАНАПАЦКІ

# ДРУЖБА НАРАДЖАЛАСЯ Ў ЗМАГАННІ

Гісторыя барацьбы беларускіх працоўных мас за свае сацыяльныя і нацыянальныя правы ў гады санацыі ўпрыгожана каштоўнымі фактамі шчыльнага інтэрнацыянальнага садружаства з польскімі працоўнымі масамі. Асабліва 30-ыя гады — у пару антыфашысцкага Народнага фронта — далі нам нямала прыкладаў такога садружаства. У гэты перыяд сусветная грамадская думка была сур'ёзна ўстрывожана разгулам фашызма, яго агрэсіўнымі крокамі супроць Іспаніі і Абісініі. У Польшчы праводзілася заўзятая палітыка дыскрымінацыі нацыянальных меншасцей: ліквідаваліся ўсялякія праявы іх культурна - асветнага жыцця, зачыняліся школы — у першую чаргу беларускія. Санацыйны ўрад распальваў антысавецкую прапаганду, разам з тым жорстка праследуючы ўсіх сімпатыкаў і прыхільнікаў краіны Саветаў. У гэтую кампанію ўключыліся таксама беларускія буржуазныя нацыяналісты, якія былі ў свой час выкінуты Кастрычніцкай рэвалюцыяй за межы Савецкай Беларусі і знайшлі цёплы прытулак пад крыллямі санацыі. Імкнуліся яны прышчапіць беларускім рабочым, сялянам нянавісць да савецкай улады, намагаліся адцягнуць іх ад рэвалюцыйнай барацьбы. Аднак дзякуючы шырокай растлумачальнай рабоце Камуністычнай партыі Заходняй Беларусі на кожным кроку выяўлялася сутнасць дзейнасці гэтых верных прыслужнікаў фашызма. Працоўныя масы, калі толькі наспявала неабходнасць, давалі ім рашучы адпор.

КПЗБ у гэтыя гады падтрымлівала і накіроўвала ўвесь нацыянальна-вызваленчы рух у былой Заходняй Беларусі. Адначасова вяла яна вялікую работу ў напрамку развіцця рэвалюцыйнай свядомасці рабочых і сялян. Гэтай справе павінен быў садзейнічаць і літаратурны рух, які б паказваў ім шлях да свабоды. Лепшыя тагачасныя прадстаўнікі гэтага руху, а перш за ўсё Максім Танк, Валянцін Таўлай і Піліп Пястрак ўзялі на сябе вялікую і адказную місію дапамагаць партыі ў яе гістарычных пачынаннях.

У 1935 г. ЦК КПЗБ выклікаў М. Танка на работу ў Вільню, дзе засяроджвалася цэлае грамадска - палітычнае і культурнае жыццё заходніх абласцей Беларусі. І тут наступае збліжэнне беларускага паэта з групай радыкальна настроеных польскіх літаратараў і журналістаў, згуртаваных вакол левай газеты «Папросту». Яны вельмі спачувальна і сардэчна ставіліся да заходнебеларускай літаратуры і нават адвялі ў «Папросту» для сваіх беларускіх сяброў спецыяльную калонку. Працаваць у «Калюмне беларускай» было даручана Танку. Тут змяшчаліся падборкі вершаў Міхася Машары, Міхася Васілька і самога Танка. Аднак не толькі. Час ад часу паяўляліся таксама карэспандэнцыі і артыкулы. А шматлікія лісты, якія атрымлівала рэдакцыя, сведчылі аб вялікай папулярнасці гэтай газеты.

Група «Папросту» паставіла перад сабою высакародную задачу прыбліжэння літаратуры да жыцця. Маладыя пісьменнікі добра разумелі, што здзейсніць гэты лозунг можна толькі ў шчыльнай сувязі з барацьбой шырокіх народных мас за новы лад. У гэтым выпадку польскія літаратары маглі браць добры прыклад са сваіх беларускіх калег, творчасць якіх сваёй тэматыкай цесна прымыкала да жыцця народа і служыла яго змаганню за вызваленне.

Максім Танк у сваіх успамінах, змешчаных у

(Працяг на стар. 7)

С. ЗАСТАВІН




Уявіце сабе круглага чалавека ў велізарных, амаль да самай задніцы ботах, у якіх ён здалёк падобны да рыбака на разгойданым сярод усхвалявана́й ракі чаўне, спрабуйце ўявіць сабе такога чалавека — і гэта будзе наш Чухрэй.

Постаць яго, асабліва беленькі твар, носіць нейкі ялейны адбітак. Так і думаеш: быць у раю добраму чалавеку. І толькі вочы яго выдаюць нейкую падвойную натуру. У час, калі адно з іх здаецца быць самым добрым, шчырым, другое неспакойна шарыць навокал, плануе нешта, прыкідвае, чорт яго ведае што! Хаця, праўду кажучы, ялейны адбітак на твары нашага Чухрэя з'явіўся не так даўно. Усё пачалося ад выбараў царкоўнага старасты. Захварэў старэнькі Мікіта, што царкоўным старастам быў, і... Чухрэй запар за яго здароўе тры абедні замовіў. Штоабедня з'яўляўся ў царкву першым, стаўшы пад самым крыласам, паднімаў твар на царскія вароты і ціха шаптаў малітвы. Калі царква напаўнялася народам (Бог яго ведае, як ён гэта адчуваў), Чухрэй, важна склаўшы тры тоўстыя пальцы, клаў крэст, потым прыгладжваў на галаве рэдкія, маслам змазаныя валасіны і, сурова спаглядаючы на людзей, пачынаў хадзьбу ад крыласа да ўваходных дзвярэй, за свечкамі. Свечкі скупы Чухрэй купляў самыя тоўстыя, і калі так адну за другою ўмяшчаў на велізарным, пражорлівым падсвечніку — дзіву канца не было... Старыя, абстрэляныя ў царкоўных парадках бабы забываліся ў адпаведных момантах станавіцца на калені і не тады, калі было трэба, лезлі цалаваць крэст. У той час усе заўважылі, што твар Чухрэя стаў святлець. Нават айцец Іярэмій стаў часта і неяк дзіўна спаглядаць на Чухрэя. Чацвёртаю абедняю стары Мікіта аддаў дух і твар Чухрэя зрабіўся зусім светлым. Некалькі дзён заняла падрыхтоўка пахавання, некалькі дзён Чухрэй недзе прападаў вечарамі і сёмага дня ад смерці Мікіты айцец Іярэмій на царкоўнага старасту запрапанаваў іменна Чухрэя. Вось тады твар яго набраў ялейнага адбітку. Але вочы ў Чухрэя, калі так можна сказаць, раздвоіліся потым. Калі Чухрэй абзавёўся ўжо новай прыгожай каровай, а ля хаты выставіў высокі, размаляваны плот, вечарком неяк спаткаў яго п'яны Кандрат. Хто не ведае Кандрата! Брахун, каб яму лёгка гікнулася на гэтыя ўспаміны... «Скажы ты, Чухрэй, — пралепятаў пячнік, ледзь трымаючыся на нагах, — скажы, колькі залатовак у адзін раз з царкоўнае талеркі бярэш!» І Чухрэй, які праз хвіліну збіраўся, здаецца, утапіць п'янага печніка ў адной лыжцы вады, замест гэтага проста, лагодна адказаў: «Ну што ты, Кандрат, што ты, малы ці п'яны?» У той час адно вока Чухрэя, здавалася, паўтарала толькі што сказаныя вуснамі словы, а другое пачало хітра шмыгаць па баках, нешта мерыць, прыкідваць, планаваць... цьфу! Вось ад гэтай пары ўся складанасць натуры Чухрэя сталася відавочным фактам. Ды да пары збанок ваду носіць. У час, калі чытаеце гэтыя словы, Чухрэй не той Чухрэй, якім ён быў яшчэ некалькі год назад... Хоць знешні выгляд яго не змяніўся, зараз у разбеганых вачах Чухрэя ўбачыце дзіўны сум, якога нават не здолее прыкрыць ад вас ялейны выгляд кругленькага твару. Здаецца, носіць гэты чалавек у глыбі сваёй душы нейкі жаль да людзей, крыўду нейкую... На самай справе Чухрэя згубіла яго ж уласная хітрасць. А вось як гэта было.

*

У памяці моцна сядзіць тая вясёлая, ліпеньская нядзелька. Ад ранку паветра было на дзіва лёгкае, прыемнае — так і лезь на лаўку зубы на сонцы грэць! Ды солтыс заказаў нам па шарварку нейкіх вучоных ці геаметраў вазіць. Што ж, вазіць, дык вазіць. Сабраліся мы ўсе вызначаныя з фурманкамі ля царкоўнага пляцу на ўзгорку, папяросы смокчам, на дарогу спаглядаем, чакаем, калі гэта госці пакажуцца. І тут вось нечакана з возам выкаціўся ад сяла Чухрэй. Усе мы вочы вытрашчылі. Чухрэю шарварак у ніякім разе не выпадаў і сядзеў ён, як гэта не дзіўна было, на чужым возе, паганяючы пазычанага каня...

— Уууу, — сумеў замычаць толькі дзядзька Фёдар, і ўсе мы замахалі галавамі.

Тым часам за некалькі хвілін, у час, калі прыгожы ранак развеяўся без следу, а праклятая куска ні на крок не дазваляла адысці ад каня, з-за ўзгорка дарогі, што вяла ад чыгункі, паказаўся густы пыл. «Быць гасцям!» — паспелі мы толькі падумаць, і вачам нашым паказалася ў шпаркім бегу чалавек дваццаць людзей, дзіўных барадатых і ў кароценькіх нагавічках.

— Цьфу! — моцна сплюнуў за ўсіх нас каваль Хухаль, і ўсе мы на хвіліну адвялі вочы на царкву. Але сапраўдны сорам стаў, калі барадатыя пачалі чапляцца на вазы. Ці каня гнаць, ці трымаць (на воз лезлі гурбамі, а народ гарадскі, адкормлены) — ніхто не ведаў. Мужыкі нашы разгубіліся, коні пачалі скакаць у бакі, і дзядзька Фёдар, якога барадач з рогатам схапіў за лыкавы лапаць, пачаў было разглядацца за дубчаком, калі ўвагу нашу ізноў прыцягнуў Чухрэй. Намеціўшы двух, самых здаравенных, з пасівелымі барадамі гасцей, амаль сілаю ўсадзіў іх на воз і — перш, чым хто-небудзь мог дадумацца, у чым тут справа, — пагнаў каня. Як па загаду, праз хвіліну ўсе фурманкі выцягнуліся на дарозе доўгім вужом. У лес, спакон вякоў так ужо ў нас вядзецца, ездзілі ўсе, хто толькі вёску наведаў. Што тут было асаблівага — аб гэтым мы ўжо нават не задумваліся. Тым больш цяпер, калі Чухрэй задаў нам такую загадку. Тут было аб чым падумаць! Затрымаўшыся ў лесе і папусціўшы коням вудзілы, усе мы, як па загаду, засунулі рукі ў кішэні і пачалі напружана думаць. Прайшла адна, другая, трэцяя і чацвёртая хвіліна... Нічога, цішыня.

— Чорт яго ведае што! — першы не вытрымаў пячнік Кандрат.

— Фактычна, дурната гэта, — сказаў дзядзька Фёдар, выціраючы спацелы лоб.

— Хлопцы! — крыкнуў Хухаль. — Чухрэй прапаў.

Мы разгублена азірнуліся. І сапраўды, сярод нас, акрамя барадатых гасцей, нехапала Чухрэя.

— Вось як! — працадзіў праз зубы паляўнічы Віктар. Усім зрабілася не па сабе.

— І што ж гэта такое, хлопцы, га? — спытаўся неўпапад Саўка.

— «Што ж гэта такое, што!» — перакрывіў Саўку Кандрат. — Дадумайся, калі хочаш ведаць!

Усе мы ізноў пачалі напружана думаць. Адну, другую, трэцюю хвіліну...

— Ёсць! — раптоўна закрычаў Кандрат. — Ведаю я, у чым тут справа!

— Спакойна! — перапыніў Кандрата стары Віктар. — Я таксама ўжо ведаю, у чым тут рэч!

— Землямеры? — крыкнуў Кандрат.

— Землямеры! — цвёрда адказаў Віктар.

І тут мы ўспомнілі аб прыладах, што прывязлі з сабой дзіўныя барадачы. Ясна, гэта былі землямерныя прылады, а барадачы — землямеры.

— Землямеры? Землямеры? — пытаўся сам у сябе каваль Хухаль. — Дык яны нашую зямлю мерыць будуць? І таму Чухрэй гэтак каля іх верціцца? І таму ён на шарварак выбраўся? Божа ты мой! — ускрычаў ён, урэшце зразумеўшы сапраўдны сэнс гэтых слоў. — Ды мы ж з Чухрэем на паповым палетку — суседзі!

— Не толькі на паповым, ды і не толькі з табою Чухрэева зямля, — сказаў разважны Марка. Яшчэ раз нам усім стала не па сабе...

— Няма чаго, хлопцы! — перарваў цішыню Віктар. — Трэба думаць, што тут рабіць.

— Што тут думаць, — упаўшым голасам адазваўся Цэкаўка. — Чухрэя не перахітрыш.

— А я вам вось што скажу, — прагаварыў Кандрат і вочы яго заблішчэлі дзіўным агнём, — слядзіць Чухрэя трэба!

— Нашто слядзіць яго? — запытаўся дзядзька Фёдар.

— А на тое, каб у выпадку, калі зямлю з крыўдай нам вымераць, пасведчыць, дзе трэба, як справы стаялі.

— Фактычна ! — адказаў Фёдар. — Не дрэнная гэта думка.

У той жа момант з лесу выкаціўся Чухрэй у суправаджэнні барадачоў. Як не жудасна было глядзець на светлы твар Чухрэя, мы моўчкі рушылі дамоў. Праўда, сумная гэта была язда...

Калі мы заехалі ў вёску, сонца хілілася да захаду. Не спускаючы вачэй з Чухрэя, мы расталіся з барадачамі і накіраваліся дадому. Тут сяк-так распрогшы коней і пахаваўшы вазы, чым хутчэй выйшлі на вуліцу. Новую, непрыемную вестку ізноў прынёс каваль Хухаль.

— Чухрэя няма ўжо ў хаце! — сіпеў ён на хаду. Праваліўся як скрозь зямлю! Вось толькі што бачыў я яго, хлопцы, а зараз і следу няма. Што будзе?

— Нічога, Хухаль, — адказаў паважны Віктар. Будзь я баран... цьфу! асёл! — крыкнуў ён, у пору прыпомніўшы няслаўную дуэль з Лукічовым бараном, — будзь я асёл, калі Чухрэй за паўгадзіны не прывядзе барадачоў у дом!

— І я гэтак думаю, — хіхікнуў Кандрат. — Пазаўчора Чухрэй гнаў самагонку — не інакш прывядзе частаваць.

Вырашылі мы злавіць іх на «гарачым» учынку і ясна паказаць, што спроба падкупу нам вядомая. Проста з'явімся да Чухрэя, калі ён будзе частаваць гасцей. Гэтакая дэманстрацыя, — здавалася нам, — магла даць найлепшы вынік, а справа такім чынам

(Працяг на стар. 5)

 

# ПЛЫВЕ НАФТА — РАСЦЕ ДРУЖБА

(Працяг са стар. 1)

ры танцораў з Брэста і з Беластока. Час пралятаў з хуткасцю касмічнай ракеты. І найцяжэй было развітвацца.



Аднолькава ярка зіхацелі ўборы танцораў з Брэста і Беластока. На гранічнай эстрадзе выступае ансамбль Брэсцкай філармоніі.

Песня, сяброўская песня, песня дружбы аднак не замоўкла. Сэрца кожнага чалавека па абодвух баках граніцы пачуе гэтую песню ў безупынным гомане ракі — нафты, што плыве ў сталёвых трубах, праложаных супольнай працай.

Тэкст і фота В. РУДЧЫК



Гістарычны момант. Зварпічыкі паляк Францішак Гломб і рускі Яўген Гаўрылаў спайваюць апошнія трубы гіганцкага нафтаправоду.



Сотні людзей з абодвух бакоў граніцы сабраліся адзначыць вялікае свята дружбы. Выступаюць «Курпс Зелёнэ».

СЕЛЬСКАЯ ГАСПАДАРКА БЕЗ ТАЯМНІЦ

# НАША СУПОЛЬНАЕ ДАБРО

Ёсць у нас ужо 1200 стальных коней. У кожнай вёсцы ёсць сеялкі, касілкі, жняяркі, бульбакапалкі і малацільныя агрэгаты. Гэта наша супольнае дабро. Гэта больш 200 млн. дзяржаўных і сялянскіх грошай.

Плугі пераварочваюць апошнія скібы, сеўнікі ўжо сышлі з палёў. Бульбакапалкі канчаюць сваю працу. Так. зіма крочыць сямімільным крокам. Зусім сур'ёзна марым аб цёплай хаце, задумваемся аб хатняй жывёле, але вельмі мала аб машынах

Не адзін адразу ўскочыць: як гэта, мы ж дбаем! Згода, згода. Але ёсць шмат дрэнных прыкладаў, дэмабілізуючых. У мінуўшую зіму не адзін трактар быў прыкрыты снегам (нават у слаўным Драгічыне). Людзі спакойна глядзелі, як марнуецца іх супольнае дабро, як іржа з'ядае машыны, якія прыйшлі, каб дапамагчы ім у працы.

Гэта не павінна паўтарыцца. Трэба ўжо цяпер аб гэтым паклапаціцца. У Бранску, Драгічыне і іншых вёсках і мястэчках зрабілі спецыяльныя гаражы. Аднак ва ўсім ваяводстве толькі палавіна трактараў будзе мець дах «над галавой».

А іншыя машыны могуць марнавацца пад дажджом і снегам? Не.

Яны не павінны стаяць пад голым небам. Ёсць жа яшчэ пустыя хлявы, клуні або іншыя будынкі! Там павінны знайсці сховішча машыны. А сяляне могуць на гэтым нават трохі зарабіць (у выглядзе дапамогі гэтымі машынамі).

І ў адным і другім выпадку трэба ведаць асноўныя правілы догляду машыны:

Машыны трэба ставіць у сухіх і закрытых будынках. Яны павінны быць ачышчаны ад зямлі і травы. Усе металічныя часткі фарбуем. Змазваць трэба толькі падшыпнікі спружыны і ланцугі. Падшыпнікі старанна выціраем, перапаласківаем у газе і яшчэ раз змазваем. Спружыны трэба адпусціць і лёгка змазаць. Ланцугі прамываем і кладзем у мяшанку лою з графітам.

Зусім інакш забяспечваем пасы. Пасы нельга прамываць у бензіне. Мыем іх у вадзе з мылам, а затым скураныя — змазваем жывёльным тлушчам, а гумовыя — пасыпаем талькам.

Гумовыя часткі кола найлепш перахоўваць асобна. Калі трактар павінен стаяць на колах, трэба іх напампаваць.

І яшчэ адно: як мага раней трэба падумаць аб розных рамонтах машын і прылад, аб запасных частках, паліве і змазках, а таксама аб прыняцці заказаў на сезон сельскагаспадарчых работ.

Інж. М. Сухажэбрскі

# ДОМ, У ЯКІМ ЖЫВЕМ

(Працяг са стар. 1)

гэта можна было вельмі лёгка адчытаць з яго блеснуўшых вачэй.

— Мы ж не так даўно вуліцу ў вёсцы перабудавалі! — тлумачыў ён, выразна ўсхваляваны, з непадкупным энтузіязмам у голасе. — Вы разумееце, што гэта значыць?! Разумееце? Гэтая ж вуліца мае звыш ста год. Год пяцьдзесят, хіба, як на ёй утварыліся такія выбоіны, што пасля малога нават дажджу праехаць нельга. І столькі год ніхто і не падумаў, што яе проста - запраста можна перабудаваць! Цяпер разумееце?

Я ўжо пачаў разумець, не змог аднак забраць размоўцы прыемнасці выясніць усё да канца.

— Ведаеце, як цяжка было гэта зрабіць? Калі першы раз я запрапанаваў зрабіць гэта грамадскім чынам, мяне абсмяялі. Я заўзяўся, і са старэйшымі вучнямі мы пасля заняткаў самі прыступілі да ліквідацыі найбольшых выбоін. Гаспадары глядзелі і вачам не верылі. Потым хавалі вочы, а потым прышлі да мяне самі. Тады як след мы пасля агульнага сходу прыступілі да прац. І ведаеце, калі мы перабудавалі вуліцу, якую кожны з нас сотні раз праклінаў у жывы камень, яны проста здзівіліся, што да гэтай пары не трапілі самі на падобную думку. І саромяліся крыху. Таму зараз так старанна разважаюць справу ўпрыгожвання той жа вуліцы, — заключыў мой субяседнік свой расказ, а клянуся, я слова ў слова пераказаў яго.

Насоўваецца і іншы прыклад, з якім я сустрэўся не так даўно.

Вяртаючыся неяк з так званага тэрэну, я па дарозе ў Беласток, перад Нарвай на Гайнаўшчыне, заўважыў пажар. Была гэта вёска Гарадзішча, а гарэла ў ёй некалькі стадол і хлявоў. Вогнішча фактычна ўжо дагарала, акружанае цеснай гурбой людзей, бязрадна глядзеўшых як цьмяць апошнія каласы збожжа. На ўсякі выпадак я адшукаў каменданта пажарнікаў, якія гасілі пажар, і з чыста рэпарцёрскага абавязку спытаў аб ходзе акцыі.

— Пажар сам па сабе невялікі, — адказаў ён. — Мы прыбылі ў час, ды што ж толку, калі гасіць не было чым. У вёсцы няма пажарнага басейна, воду давялося давозіць аж з Ласінкі, а надабавак дарога не найлепшая! Каб была вада, не згарэла б столькі ўсяго. — І тут выяснілася, што страты складаюць прыблізна 150 тыс. злотых.

— Як жа так, — звярнуўся я ў сваю чаргу да гаспадароў. — у вас басейна няма?

— Няма, бо няма! — адказаў мне нейкі дзядзька. — Няма каму пабудаваць, вы бачыце?

У голасе яго было нават абурэнне.

— А хто ж мае пабудаваць басейн? — здзівіўся я.

— Ну, ПЗУ, гміна, — адказаў ён, не маргнуўшы вокам.

— Добра, — працягваў я, — а колькі вас, мужчын, у вёсцы будзе?

— Мо' чалавек трыццаць і будзе, — адазваўся нехта з-за плячэй.

— А колькі дзён трыццаць мужчын будзе будаваць адзін басейн?

— ...Мо' два, тры можа... — адказаў неахвотна той жа самы голас, пасля чаго запанавала няёмкая цішыня.

Маленькае завяршэнне гэтай сцэнкі наступіла, калі я сабіраўся з пагарэлішча.

— Няма чаго, хлопцы, — адазваўся нехта з людзей, — трэба будзе, хіба, падумаць над гэтым басейнам!

Няхай не падумае чытач, што і пры дапамозе пажараў хочам дасягнуць узросту сацыялістычнай свядомасці сярод нашых сялян. Гэта проста прыклады двух дарог да аднаго і таго ж вываду: край наш — дом наш, у якім жывем. Няма мяжы паміж маімі і грамадскімі справамі, бо грамадскасць — не абстракцыя. Гэта ты і я і ён — разам. А калі будуем, будуем мне і табе і яму — разам.

Справа Таварыства ў тым, каб вывад гэтакі зразумелі людзі нашай вёскі як найхутчэй і... карыстаючыся першым прыкладам!

Л. МАЙСЕЮК

(Працяг са стар. 2)

— Дарэмна. — Старкоў перавёў позірк на стаячы на падлозе чамадан. — Што там?

Петрасян лёгка падхапіў чамадан, раскрыў і вываліў на стол змесціва: два пісталеты і партфель з запаснымі абоймамі да іх, компас, тры пачкі ўзрыўчаткі з прывязанымі да іх узрывацелямі, чатыры электрычныя батарэі для радыёстанцыі і адну маленькую — да ліхтарыка, ракетніцу з пяццю патронамі розных колераў, дзве абоймы да аўтамата і мініятурную аптэчку.

Старкоў і Маркаў уважліва аглядалі кожную рэч.

— Што ён гаворыць? — спытаў Старкоў.

— Ніякіх дадзеных не паведамляе. Толькі жартуе, каб мы спяшаліся. І смяецца, гад! Вялікія чорныя вочы Петрасяна ад злосці звузіліся. — У мяне, таварыш камісар, склалася ўражанне...

— Пачакайце са сваімі ўражаннямі, — строга абарваў яго Старкоў. — Ён ведае, што знаходзіцца ў Маскве?

— Ведае, гад. Калі мы прызямляліся, засмяяўся і гаворыць: «Я прыбыў у Маскву раней за ўсіх».

— Давайце яго сюды.

Петрасян хутка выйшаў з пакою. Старкоў сказаў Маркаву:

— Дапытваць буду я... Вы вядзіце пратакол — для вока. Схема допыта такая: калі ён хоча жыць, хай не толькі нас спешыць, але спяшаецца і сам. Нам жа спяшацца няма куды: на яго расстрэл нам дастаткова пяці мінут, мы ўсё ведаем і без яго па-

4

казанняў. Маўляў, не допыт, а чыстая праформа перад тым, як расстраляць. І вы ўжо афармляеце пратакол расстрэлу. Бандыты, як правіла, абажаюць жыццё. Ставім на гэта...

— Ясна, — сказаў Маркаў.

Вярнуўся Петрасян, і за ім канвойныя ўвялі немца. Старкоў паказаў на крэсла:

— Сядзьце сюды.

— Дзякую, — выразна сказаў немец, сеў, паглядзеў на сцянны гадзіннік, які паказваў дваццаць мінут другой, і ўсміхнуўся.

— Вашы імя і прозвішча? — нядбайна спытаў Старкоў.

Немец не адказваў і, працягваючы ўсміхацца, глядзеў на Старкова, то на Маркава, то на Петрасяна.

— Можаце, калі хочаце, назваць выдуманае імя, — сказаў Старкоў.

— Адольф Гітлер! — выкрыкнуў немец, перастаўшы ўсміхацца.

— Гэта імя не падыдзе, — зморшчыўся Старкоў. — Яго нязручна ўносіць у пратакол вашага расстрэлу. Самі разумееце.

У сініх вачах немца мільганула разгубленасць. Відавочна, зразумеў, што з ім не жартуюць.

Усё роўна вы нічога ад мяне не даведаецеся, — завучана сказаў ён. — І я вельмі раю вам паспяшацца.

— Нам спяшацца няма куды, — ляніва сказаў Старкоў і пачаў закурваць папяросу. — На расстрэл хопіць пяці мінут.

5

— Вы ж не ведаеце, што вас чакае! — сказаў немец.

— Вы маеце на ўвазе вайну? Ведаем, — сказаў Старкоў, назіраючы за дымам ад папяросы.

Немец збянтэжыўся. Некалькі мінут ён маўчаў, а потым сказаў:

— Вы адкажаце за гэта.

— За што? — здзівіўся Старкоў. — На пратаколе расстрэлу мы паставім дату пазней, і, такім чынам, вы будзеце расстраляны па законах ваеннага часу, як шпіён і дыверсант.

На ілбе ў немца выступіў пот. Ён нешта абдумваў.

— А калі я буду гаварыць? — раптам спытаў ён.

— Вы адстрочыце сваю смерць, а мо', унікнеце расстрэлу, — спакойна адказаў Старкоў. — Мы з контрразведкі, і, натуральна, нам важна атрымаць ад вас звесткі.

— Я даваў прысягу, — зноў завучана выпаліў немец.

— Мы таксама, — ціха сказаў Старкоў. — Такая ўжо ваенная служба...

У гэты час Маркаў нецярпліва заруxаўся, Старкоў паглядзеў на яго і звярнуўся да немца:

— Так, я забыў, назавіце ўсё ж-такі нейкае прозвішча... — Старкоў усміхнуўся. — А то мой пратакаліст нервуецца.

— Гельмут Шыкерт, — крыху падумаўшы адказаў немец.

Старкоў пачакаў, пакуль Маркаў запісаў прозвішча, і сказаў яму:

6



 

 

ВЕСТКІ БССР



У лабараторыі малекулярнай фізікі

# БЕЛАРУСКІ УНІВЕРСІТЕТ

У цэнтры Мінска, сярод цяністых алей і кветнікаў узвышаюцца вучэбныя карпусы і інтэрнат Беларускага ўніверсітэта імя У. І. Леніна, заснаванага ў 1921 годзе.

Звыш чатырох дзесяцігоддзяў прайшло з таго дня, калі ўпершыню адчыніліся яго дзверы. За гэтыя гады ўніверсітэт пераўтварыўся ў найбуйнейшую навучальную ўстанову Беларусі па падрыхтоўцы нацыянальных кадраў. На яго 8 факультэтах дзённага абучэння, на вячэрнім і завочным факультэтах займаецца звыш 8,5 тысяч студэнтаў. Прыгнятаючую большасць з іх складаюць прадстаўнікі беларускай нацыянальнасці.

Ва ўніверсітэце працуе каля 500 выкладчыкаў. Сярод іх — 230 дактароў і кандыдатаў навук. З моманту свайго заснавання ўніверсітэт падрыхтаваў звыш 20 тысяч спецыялістаў вышэйшай кваліфікацыі.

Шматлікія выхаванцы ўніверсітэта сталі вядомымі вучонымі, якія ўнеслі вялікі ўклад у навуку. Сярод іх дактары фізіка - матэматычных навук Л. А. Арцімовіч, А. Н. Сеўчанка, Ф. І. Фёдараў, дактары хімічных навук Н. Ф. Ярмоленка, М. М. Паўлючэнка і шматлікія іншыя.

Універсітэт дае студэнтам трывалыя веды. Вучоба іх працякае ў неразрыўнай сувязі з практыкай камуністычнага будаўніцтва. Студэнты займаюцца ў лабараторыях, удзельнічаюць у навуковых экспедыцыях, вядуць астранамічныя назіранні. Праходзяць вытворчую практыку на заводах, у навукова - даследвальных інстытутах, саўгасах, калгасах і школах.

Шматлікія вучоныя ўніверсітэта атрымалі каштоўныя навуковыя вынікі, напісалі шэраг буйных прац. Толькі за 1962 год апублікавана звыш 100 навуковых прац у выдавецтвах рэспублікі і Савецкага Саюза. У навуковыя даследванні шырока прыцягваецца студэнцтва. У 1962 годзе ў 54 навуковых гуртках прыймала ўдзел каля дзвюх тысяч студэнтаў.

У бібліятэцы ўніверсітэта налічваецца звыш 600 тысяч кніг. Яна вядзе абмен навуковымі выданнямі са шматлікімі айчыннымі і замежнымі навуковымі ўстановамі.

Змястоўнае, кіпучае жыццё ўніверсітэта. З вялікімі перспектывамі далейшага развіцця ўступіў ён у сваё пятае дзесяцігоддзе.

АНДРЭЙ МАЛЫШАЎ
прарэктар Беларускага ўніверсітэта



Студэнты 2 га курса гістарычнага факультэта на месцы раскопак старажытнага Мінска.



Члены клуба інтэрнацыянальнай дружбы ўніверсітэта вядуць перапіску са студэнтамі ўніверсітэтаў шматлікіх краін свету.



Студэнты матэматычнага факультэта ля электроннай машыны «Урал — 1».

НА ШЫРОКІМ СВЕЦЕ

# ДЗВЕ ЖАНЧЫНЫ — ДЗВЕ КРАІНЫ

З вітрын кніжных магазінаў Вашынгтона, Нью-Йорку, Лондана, Парыжа і другіх гарадоў яркімі, бліскучымі колерамі маніць вочы амерыканская кніжка. Яе загаловак: «Жанчына ў космасе».

Няўжо гэта ветлівы джэнтэльменскі паклон гераіні космасу Валянціне Уладзіміраўне Церашковай? Няўжо амерыканцы паспелі выдаць ужо кніжку пра слаўную «Чайку»?

Аказваецца, не. Загаловак кніжкі разлічаны толькі на рэкламу і ён зусім не апраўдвае яе зместу. Хіба толькі ў той ступені, у якой гэтая кніжка сама па сабе з'яўляецца рэкламай. Зрэшты, выдаўца мусіў неяк апраўдаць салоную цану кніжкі. Яна каштуе каля 5-ці долараў. Пералічыўшы на залатоўкі па курсе Польскай касы апекі — 72 зл. за адзін долар — атрымаем 360 злотых!

За што плаціць такія вялікія грошы?

Гераіняй кніжкі з'яўляецца амерыканская жанчына Джэры Коб, якая вельмі хацела першай пабываць у космасе.

Джэры Коб маладая адважная амерыканская жанчына. Яна моцна закахалася ў авіяцыю. Самалёты — адзіная яе жыццёвая стыхія. Яна дасканала авалодала тэхнікай пілатажа найперш звычайных самалётаў, а затым перайшла на рэактыўныя, звышгукавыя.

Сапраўды стойкая, смелая і энергічная жанчына! Яна заваявала шмат нацыянальных рэкордаў амерыканскай авіяцыі. Заўсёды аднак вымушана была весці фармальную вайну, каб дабіцца права на пілатаж самалётаў.

Так было і тады, калі амерыканцы пачалі рыхтаваць лётчыкаў да палёту ў космас. Джэры Коб захацела стаць касманаўтам. Аднак амерыканская праграма не прадбачвала ўдзелу жанчыны ў падрыхтоўцы да касмічных палётаў. Пасля доўгіх клопатаў стойкасць Джэры Коб перамагла. Яе дапусцілі да трэніровак і яна на роўні з касманаўтамі-мужчынамі паспяхова прайшла ўсю неабходную касмічную падрыхтоўку. На тым аднак закончылася яе касмічная кар'ера.

З вітрын кніжных магазінаў крычыць яркі загаловак: «Жанчына ў космасе». Усё аднак паказвае на тое, што Джэры Коб зусім не пабачыць зямлі з высаты касмічных прастораў. Як падае амерыканская газета «Нью-Йорк мірор», амерыканская праграма палётаў у космас зусім не прадбачвае палёту жанчыны. Адвагу і стойкасць Джэры Коб доларныя каралі пакуль што выкарыстоўваюць для сваёй рэкламы. Тут і вылазіць з мяшка шыла праслаўленай амерыканскай дэмакратыі, даючы яшчэ адзін доказ, што ў Злучаных Штатах Амерыкі далёка яшчэ да ажыццяўлення прынцыпу: жанчыны і мужчыны маюць роўныя правы.

Адна надзея Джэры Коб у тым, што подзвіг Міс Космасу Валянціны Церашковай змусіць амерыканцаў нанава апрацаваць праграму касмічных палётаў. Тады можа пашчасліціцца і Джэры Коб...

З кніжкай пра Джэры Коб пазнаёмілі касмічную пару — В. Церашкову і В. Быкоўскага.

**— Амерыканскі касмічны карабель «Меркурый»,** — заявіў **Валеры Быкоўскі, — мала прыгатаваны да палёту не толькі жанчыны, але і мужчыны. Аб тым з прыгнятальнай шчырасцю пішуць самі амерыканскія касманаўты.**

**— Так, я шчыра шкадую Джэры Коб, — дадала Валянціна Церашкова. — Яна ж выдатная лётчыца і адважная жанчына.**

Калі Джэры даведалася, што першай у космасе пабывала савецкая жанчына, яна заявіла:

**— Я вельмі расчаравана тым, што першай жанчынай у космасе аказалася руская,** а не амерыканка.

Разумеем Джэры Коб і шчыра ёй спачуваем. Тым больш, што па гэтай прычыне яшчэ не адзін раз прыдзецца расчароўвацца амерыканцам.

(а—вр)

З ГІСТОРЫІ ВЫНАХОДНІЦТВАЎ

# АПТЫЧНЫ ТЭЛЕГРАФ

«У тумане на ўзгорку вельмі далёка замільгалі перад вачыма тры паласы каляровых ліхтароў. Бейль уздрыгнуў: «Няўжо тут працуе семафор? Памылкі быць не магло: так, гэта ваенны геліограф перадае дэпешу!»

Аліўеры вострымі птушынымі вачыма ўпіваўся ў светлавыя рознакаляровыя сігналы, якія пераліваліся, мільгалі, успыхвалі, чарцілі палосы цераз марозны шаравата-сіні туман. Аліўеры добра ведаў значэнне ўзмаху, кожнай светлавой кропкі.»

Так апісвае работу аптычнага тэлеграфа пісьменнік Анатоль Вінаградаў у рамане «Тры колеры часу».

Упершыню такі аптычны тэлеграф быў пабудаваны ў Францыі ў 1794 годзе інжынерам Шапам паміж Парыжам і Лілем. На працягу 225 кіламетраў былі размешчаны на пэўнай адлегласці адна ад адной высокія вежы, з якіх перадаваліся светлавыя сігналы, што складалі тыя ці іншыя словы і фразы.

У тым жа годзе ў Расіі вядомы вынаходнік і механік І. П. Кулібін распрацаваў сваю сістэму аптычнага тэлеграфа.

Спатрэбілася яшчэ 30 гадоў, каб ідэі рускага механіка і французскага інжынера былі ажыццёўлены. У 1824 годзе ў Расіі пачала будавацца першая лінія аптычнага тэлеграфа. У 1839 годзе была пабудавана самая доўгая лінія Пецярбург—Варшава. На працягу 15 гадоў светлавыя сігналы і днём і ноччу перадавалі дэпешы з берагоў Нявы на берагі Віслы. У 1854 годзе гэта тэлеграфная лінія спыніла сваё існаванне.

На змену светлавому тэлеграфу прыйшоў электрамагнітны.




**...што з таго часу, як чалавек стаў размаўляць, на зямлі змянілася 7 тысяч моваў. А цяпер на зямным шары існуе каля трох тысяч моваў і гаворак.**



 




## КУР'ЁЗЫ

### ХАЙ ПАДУМАЮЦЬ

У газеце «Таймс» надрукавана пісьмо чытача, які іранічна рэкамендуе дзяржаўным дзеячам Англіі пісаць свае прамовы ў вершах: гэта, піша аўтар пісьма, у крайнім выпадку прымусіць палітычных дзеячоў раней, чым нешта сказаць, падумаць.



Няпраўда, што чалавек з крывымі нагамі абавязкова пойдзе па крывой сцежцы.

• • •

### УСЁ ЯСНА

— Замужам? — спытаў суддзя.

Сведка ўздыхнула.

— Не замужам, — прадыктаваў суддзя сакратару.

— Жанаты? — спытаў суддзя іншага сведку.

Сведка уздыхнуў.

— Жанаты, — прадыктаваў суддзя.

• • •

### МОДА

Жонка, гартаючы журнал мод, звяртаецца да мужа:

— У гэтым годзе мужчыны будуць насіць кашулі без гузікаў.

— Цудоўна! Аказваецца, я ўжо пятнаццаць год модна адзеты.



Бокс ён заўсёды глядзеў з задавальненнем: прыемна было, што б'юць іншых, а не яго.

## ДУМКІ ЯСЬКІ АПАЛОНІКА

Ад жыцця ўцякае толькі самазабойца.

*

Няхай цвітуць усе кветкі, але не забывайцеся павырываць асот, бо як зацвіце — усё поле засмеціць.

*

Бывае, што і цішыня моцна коле ў вушы.

*

Учарашняга дня не дагоніш нават касмічнай ракетай.

*

Ёсць такія зоркі, бляск якіх застаецца ў нашай памяці назаўсёды.

## САВЕЦКІ ГУМАР




Цырымонія адкрыцця

### ТАК, ЯК І БАЦЬКА...

Аднойчы вучань вярнуўся са школы і падае бацьку дзённік.

Бацька: — Так, арыфметыка — пяць, паводзіны — два. Што цябе, шыбеніку, пыталі?

Сын: — Колькі пяць разоў па сем.

Бацька: — Ну, а ты што сказаў?

Сын: — Трыццаць пяць. А настаўніца зноў пытае, колькі сем разоў па пяць.

Бацька: — А што, яно хіба не адзін чорт?

Сын: — Дык я і так адказаў...



— Мы нядаўна купілі раяль!..

### ПАСЛУХАЎСЯ

Лекар: — Вы паслухаліся маёй парады супроць бяссонніцы?

Пацыент: — Так, далічыў да 37.677.

Лекар: — І заснулі?

Пацыент: — Не паспеў, час было ўставаць.

## Фанабэрысты камень

Пасярод дарогі ляжаў даволі ладны камень. Ідзе машына — уз'язджае на яго. Крочыць ноччу чалавек — спатыкнецца. Ды ці мала каму ён замінаў?

Камень гэты быў надта фанабэрысты і любіў выхваляцца перад тэлефоннымі слупамі, што стаялі паабапал дарогі.

— Мне вось кожны чэсць аддае, дакрануцца да мяне лічыць за шчасце, а вас ніхто і не прыкмячае, — важна гаварыў камень. — А калі і заўважаць вас, дык жалезнымі кіпцюрамі ўсіх абшарпаюць.

Слупы загулі праваднамі, але нічога камень не зразумеў і ўсё кпіў з іх.

Аднойчы прыйшла машына і спынілася ля каменя. «Глядзіце і зайздросце!» — радаваўся той, падміргваючы слупам.

Слупы маўчалі. Праз некалькі хвілін яны заўважылі: там, дзе ляжаў камень, засталася ледзь прыкметная яміна.

**Я. і Г. Бароўкі**

# ЯК ЧЭРЦІ СВІНЕЙ У БАЛОТА ЗАЦЯГНУЛІ

Ціха вечарам на вёсцы. Сонца ўжо схавалася за горкаю. Жывёла даўно прыгнана. А на дварэ цёпла, прыемна, хоць цэлую ноч сядзі перад хатаю. Сабраліся дзеці каля дзядзькі Рыгора і давай прасіць:

— Дзядзенька, дзядзенька, раскажы, як гэта табе чэрці свіней у балота зацягнулі.

— Самі вы чарцяняты, — буркнуў Рыгор. — Вы лепш скажыце, хто гэта мне ўсе яблыкі паабрываў.

— А вы, дзядзенька, не маніце, — уступіўся за ўсю кампанію Рыгораў пляменнік Валодзя. — Зусім не ўсе, мы вам яшчэ добрую палавіну пакінулі.

— Ну, я вас тут усіх зараз! — успыліў дзядзька.

— Дзядзенька, нельга так, — запішчалі дзеці. — Вы ж асвету тармозіце. Мы ж гэта не так сабе, а для дабра навукі.

— А гэта што ізноў за навіна? — У Рыгора аж вусы падняліся ўгору.

— А так, дзядзенька, — пачаў паясняць Славік. — Усе ж ведаюць, што вы нейкія новыя гатункі разводзіце, і што яблыкі ў вас — проста дзіва. Вось мы і рашылі па-навуковаму і планава завесці ў сваіх садах вартасныя гатункі. Ну і ў першую чаргу нам трэба ж было пераканацца, якія там у вас больш смачныя, гэта значыць, больш вартасныя.

— Ох, вы, пастрэлы, працаўнікі навуковыя. Навуку ж галавою, а не жыватом асільваць трэба, — рассычаўся дзядзька. — Ну, нічога. На гэты раз дарую. А цяпер сядайце. Раскажу, як я ў пана свіней пасвіў. Толькі глядзіце, каб у мой сад больш не лазілі.

Даўно гэта было. Быў я тады маладым хлапцом, — пачаў расказваць Рыгор. — Захацелася мне жаніцца. А дзяўчына ў мяне была — проста мара. Доўгія косы, вочы, як васількі сінія, а сама стройная, як бярозка ў полі. Ну, вы ж жонку маю, цётку Алесю, усе знаеце. Цяпер гэта яна з гадамі крыху пахілілася, але ў той час ва ўсёй акрузе другой такой не было. А цяпер і зусім ужо няма дзяўчат такіх — хілая нейкая моладзь пайшла. Ну — на чым я там скончыў? Ага! Вось і спатрэбіліся мне грошы на вяселле. Кінуўся я туды - сюды — няма скуль узяць. Трэ было да пана ў парабкі наймацца. А пан у нас быў скупы, скупы. Працавалі мы ў яго з раніцы да вечара. а грошай зараблялі, што кот наплакаў. Бачу, што такім спосабам я да смерці на вяселле не назбіраю і пачаў думаць, як тут пана абмануць. Ну што ж, пасу. З аднаго боку балота, з другога — дарога. Гляджу, гоняць па дарозе гандляры жывёлу ў мястэчка. Затрымаліся ля мяне. Пытаюцца, мо' свіней прадам. Пачухаў я патыліцу і раптам прыйшла мне ў галаву думка. Добра, — кажу, — прадам, толькі без хвастоў. А ім што з хвастоў — яны ж жывёлу на мяса куплялі. Узяў я ад іх грошы, паадрэзваў свіннням хвосцікі, і пагналі яны з сабою панскае стада.

Я тым часам хуценька залез у балота і панатыкаў то там, то сям па балоце свіных хвосцікаў. Панатыкаў і бягом да пана. Паночку! — крычу здалёк. — Бяда, бяда страшэнная здарылася. Чэрці, — кажу, — рагатыя з балота павылазілі, жалезнымі віламі свіней вашых у трыснёг загналі і тыя, бедненькія, усе патапіліся, толькі хвосцікі тырчаць. Усхапіўся пан і бягом на балота. Адразу так і злавіў за адзін хвосцік. Крычу яму: Асцярожна, бо можа адарвацца. Дзе там. Дзёрнуў і хвост у яго ў руках застаўся. Дзёрнуў за другі — тое самае. Так і ўсе хвасты павыцягваў. Лаяўся пан доўга і сярдзіта, але што ж парадзіш супроць нячыстай сілы. Пайшла чутка аб гэтым здарэнні па аколіцы. Да сённяшняга дня людзі тое балота здалёк абмінаюць — чарцей баяцца. А нам з Алесяй грошай на гучнае вяселле хапіла.

Дзядзька Рыгор кончыў, устаў з лаўкі і, смеючыся, сказаў:

— А вам што? Свіней пасвіць не мусіце, у школу ходзіце, у суседскіх садах навуковаю працаю займаецеся — чарцяняты. Ну! Бягом спаць!

**ЮРКА ГЕНІЮШ**




— Зноў авіябензінам запраўіў!..

### ПЕСНІ ПА ЗАЯЎКАХ

По просьбе **Мікалая Сухадолы і Васі Харкевіча** са Слабодкі, Гайнаўскага павета, змяшчаем папулярную савецкую песню.

## ВЕЧЕР НА РЕЙДЕ

Слова А. Чуркина
Музыка В. Соловьёва-Седого.

Споемте, друзья, ведь завтра в поход
Уйдём в предрассветный туман.
Споем веселей, пусть нам подпоет
Седой боевой капитан.

Припев:
Прощай, любимый город!
Уходим завтра в море.
И ранней порой
Мелькнет за кормой
Знакомый платок голубой.

А вечер опять хороший такой,
Что песен не петь нам нельзя.
О дружбе большой, о службе морской
Подтянем дружнее, друзья!

Припев.

На рейде большом легла тишина,
А море окутал туман.
И берег родной целует волна,
И тихо доносит баян.

Припев:
Прощай, любимый город!
Уходим завтра в море.
И ранней порой
Мелькнет за кормой
Знакомый платок голубой.

## ЗМЫЛАК

Мой сусед — чалавек шчаслівы,
Жонку любіць, як кавалер,
Ні гарэлкі не п'е, ні піва.
Казырае яму пачціва
Участковы міліцыянер.
Пры начальніку гне спіну ён,
Іншых —
Перад сабою гне.
Як пабачу яго святую
Плеш канторскую залатую,
Апетыт пакідае мяне.
Чысты, слізкі, нібыта змылак,
Ён мне кланяецца штодня.
Я сказаў бы:
Ягнятка мілае,
Каб не ведаў, што ён свіння.

**М. АЛТУХОЎ**



Каб не падказваў.